Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

25 красавіка-1 мая 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№17 (105)



6-я старонка.

З Вялікаднем, праваслаўныя!

Рэдакцыя "РГ".

## З рэйкаў здымуць, са дна дастануць

*МАЛАДЗЕЧНА. Нумар 911 ведае кожны амерыканец. Набраўшы гэтыя тры лічбы, можна спадзявацца на дапамогу. Мы ж звычайна разлічваем на міліцыю, пажарных, медыкаў. Але хутка год, як дзяжурства нясе пажарная аварыйна-выратавальная часць (на сёння іх 20 па рэспубліцы).*

*Чытайце матэрыял на 2-й стар.*

## Патрабуюцца на работу

*Вілейка*. Інжынер-энергетык (1), інжынер-электрык (1), галоўны інжынер (1), інжынер-тэхнолаг (1), станочнік (8), трактарыст (3), токар (2), стапяр (10), даярка (6), даглядчык за жывёлай (3). ***Тэл. для даведак 54113.***

*Мядзел*. Прадавец (4), буфетчыца (2), механізатар (4), даярка (2), палявод (2), газаэлектразваршчык (2). ***Тэл. для даведак 55835.***

*Маладзечна*. Токар (5), газаэлектразваршчык (5), экскаватаршчык (2), муляр (10), маляр (4). ***Вялікі Гасцінец, 147.***

*Смаргонь*. Муляр (5), маляр-тынкоўшчык (10), стапяр (2), газа-электразваршчык (3), цясляр (5). Усе спецыялісты не ніжэй за 4 разрад. ***Тэл. для даведак 32130.***

*Астравец*. Даярка (5), цялятніца (3), будаўнікі, газаэлектразваршчык (1), токар (2), загадчык фермы (1), трактарыст (3), галоўны інжынер (1), заатэхнік (1), загадчык гаража (1), загадчык мехсектара. ***Тэл. для даведак 21708.***



## Шоў працягваецца!..

*МАЛАДЗЕЧНА. Трэці штогадовы фестываль "Зоркі Маладзечна" праводзіўся гарадскім цэнтрам эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў. Сёлета яго адкрыла трыо трубачоў, выхаванцаў музычнай школы. Сяргей Аўсянік, Уладзімір Аношка і Кірыл Хроль выканалі "Салдацкую песню", якая прагучала, нібы заклік для астатніх удзельнікаў смела выходзіць на сцэну і дарыць свае песні і танцы гледачам.*

*Заканчэнне на 2-й стар.*



Заняткі з юнымі карэспандэнтамі пройдуць 29 красавіка (у аўторак) а 16 гадзіне ў рэдакцыі "РГ". Запрашаюцца ўсе жадаючыя. Тэл. 69667.

## Дапаможнікі па гісторыі Беларусі

можна набыць у памяшканні "Рэгіянальнай газеты",
у кнігарнях "Спадчына" і "Сучаснік" (Маладзечна),
у Вілейцы - даведкі па тэл. 55194, капіравальны цэнтр "Парус" (гасцініца "Вілія"),
у Смаргоні - даведкі па тэл. 33010, 51635,
у Астраўцы - даведкі па тэл. 26500 (з 28 красавіка).

## Адным абзацам

Падведзеныя пакуль папярэднія вынікі прайшоўшага 19 красавіка рэспубліканскага суботніка— прынялі ўдзел усе працоўныя калектывы, каля 4 мільёнаў чалавек, уключаючы высокіх асоб дзяржавы, выраблена прадукцыі на суму 451 млрд. руб.— сведчыць, што людзі, асабліва ветэраны, засумавалі па такіх святочных мерапрыемствах. Адзначана шкадаванне, што ініцыятыву грамадзян Беларусі не падтрымалі народы СНД і іншых краін замежжа.

З выпадку гадавіны чарнобыльскай трагедыі заўтра, 26 красавіка, адбудзецца шэсце "Чарнобыльскі шлях", удзельнікі якога выкажуць пратэст супраць згортвання праграм дапамогі пацярпеламу насельніцтву. Па ўзроўні няўвагі да праблем катастрофы краіна адкінута на 10 год назад, фінансаванне дзяржаўных праграм дапамогі зніжаецца, новая канцэпцыя небяспечнага парога радыеактыўнасці тэрыторыі пазбавіла спецыяльных мер абароны тысячы людзей, дзяржавай байкатуецца паступленне гуманітарнай дапамогі праз разнастайныя дабрачынныя фонды. Мінскім гарвыканкомам правядзенне заўтрашняй, што стала ўжо традыцыйнай, акцыі дазволена. Аднак яшчэ перад справаздачай прэзідэнт Лукашэнка заявіў, што выпадкі правакавання масавых беспарадкаў у час шэсця і мітынгу каля Палаца спорту будуць расцэненыя Саветам бяспекі як спроба дзяржаўнага перавароту з адпаведнымі наступствамі для ўдзельнікаў.



## Навіны

### Дабрачыннасць у 90 мільёнаў

*ВАЛОЖЫН. Аднаўляецца гістарычны помнік, дзеючы храм каталіцкіх вернікаў— касцёл Святога Юзафа.*

Плануецца ўстаноўка трох бронзавых званоў. Клопат пра гэта ўзяла на сябе польская фірма. Будзе адліваць 130-, 80- і 40-кілаграмовы званы. Такая дабрачыннасць на нашы грошы абыдзецца палякам у 90 мільёнаў рублёў.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

### Грузінскі сыр з Валожыншчыны

*ВАЛОЖЫН. Грузінскі мяккі сыр "Сулугуні" нарадзіўся напярэдадні 1995 года ў вёсцы Сакаўшчына. Тады ў калгасе "1 Мая" поўным ходам развіваліся дапаможныя промыслы, а ініцыятыву па выпуску сыроў праявілі шасцёра маладых грузінаў, якія на той момант атабарыліся ў беларускай вёсцы і мелі статус часовых бежанцаў.*

Крыху саланаваты на смак сыр знайшоў сваіх прыхільнікаў не толькі ў Валожыне, але і ў Мінску, і нават у Санкт-Пецярбурзе. Аказалася, што ён мае не толькі сакаўшчынскую прапіску. Вырабляюць яго таксама ў цэнтры калгаса імя Куйбышава— у вёсцы Забрэззе. Гаспадарка здала ў арэнду грузінскім майстрам-сыраробам памяшканне дзіцячага садка, якое да апошняга часу пуставала, а цяпер мае ад прадпрымальнікаў штомесяц 5 мільёнаў арэнднай платы. Малако пастаўляюць мясцовыя калгасы "Лоск", "Перамога", "Зара" і іншыя.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Музычны сервіз

*ЛІДА. Не першы год мясцовае музвучылішча ладзіць конкурс імя К. Горскага па класе струнных смычковых інструментаў і фартэпіяна.*

Астравеччыну на ім нядаўна прадстаўлялі 5 удзельніц. Наташа Лобач заняла трэцяе месца (фартэпіяна). Дзяўчыне ўручылі чайны сервіз, і цяпер у перапынках паміж заняткамі музыкай яна разам з выкладчыцай Таццянай Ярмак мусіць бавіць час за кубкам гарбаты.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### ДСПС-КПСС-СССР. Далей?..

*МАЛАДЗЕЧНА. У актавай зале палітэхнікума адбыўся сход ДСПС— арганізацыі левага, камуністычнага накірунку.*

Устрымаўшыся ад характарыстыкі работы гарадской вертыкалі, выступоўцы, у асноўным, засяродзілі сваю ўвагу на нядаўна прайшоўшым у Мінску кангрэсе народаў былога СССР і праблемах найхутчэйшага аднаўлення апошняга. У прамовах дакладчыкаў часам скразіла рыторыкай, узятай на ўзбраенне з арсеналаў часоў халоднай вайны, скіраванай сваёй непрымірымасцю не толькі да сваіх ўнутраных палітычных апанентаў, але і да цяперашняга кіраўніцтва, Расійскай Федэрацыі і краін Захаду. Праўда, на пытанне адзінага на гэтым сходзе маладога чалавека, якую шкоду для нас прыносіць палітыка такіх заходніх краін, як Аўстрыя, ніхто з абранага прэзідыума так і не даў выразнага адказу.

Парадаксальным выглядае жаданне ўдзельнікаў гэтага мерапрыемства неадкладнага аднаўлення былога СССР, калі ў большасці яго колішніх рэспублік, а цяпер незалежных дзяржаў, няма ўжо ні Саветаў, ні "сацыялізму", ні асаблівага памкнення распачынаць сваё "новае жыццё" ў адзінай федэратыўнай краіне, тым больш пад кіраўніцтвам КПСС.

*Алесь ЦАДКО.*

## Прадпрымальніцтва

## 40 чалавек абслугоўваюць рэспубліку

*МАЛАДЗЕЧНА. Вытворча-камерцыйная фірма "ГіС" першая сярод недзяржаўных прадпрыемстваў рэспублікі наладзіла вытворчасць салёнай і вэнджанай рыбы.*

Сёння толькі ў горадзе 5 яе паслядоўнікаў. Але па магутнасці з "ГіСам" ніхто не параўнаецца. У месяц тут перапрацоўваецца каля 200 тон скумбрыі, селядцоў. Аптовыя пакупнікі стаяць у чарзе за прадукцыяй фірмы. Толькі ў Мінску 170 гандлёвых пунктаў і арганізацый прымаюць на рэалізацыю рыбу з маладзечанскай маркай. Якасць і цана задавальняюць пакупнікоў.

Работнікаў фірмы, улічваючы ахоп па рэспубліцы, няшмат— 40. Двое занятых непасрэдна на вытворчасці, дарэчы, жывуць у сталіцы і штодня ездзяць электрычкай на работу. Бо ў "ГіСе" клапоцяцца аб людзях— неблагія заробкі, бясплатныя абеды і ў канцы тыдня кожны таксама бясплатна атрымлівае па 2,5 кг рыбы

У перспектыве— стварэнне сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства.

*Аддзел інфармацыі.*

**Нашы за бугром**

# Вясна. Пацягнуліся на Захад музыканты

*З надыходам цяпла "нашы" выязджаюць за мяжу на заробкі. Адны кладуць цэглу, вырошчваюць у цяпліцах агародніну. Іншыя на "буржуйскіх" вуліцах зарабляюць музыкай. Юрый Нікіцін, скрыпач з Маладзечна, толькі што вярнуўся з Нюрнберга.*



"Брэменскія музыканты" з Беларусі. Фота Ігара ВОЙТКІ.

**— Чаму менавіта ў Германію было вашае падарожжа!**

— Там прасцей зарабіць. Можна ехаць у Францыю, але яна далей. Гавораць, спрыяльныя ўмовы ў Іспаніі. Не хочацца рызыкаваць. За 2 тыдні ў Нюрнбергу сустрэлі 15 груп вандроўных музыкантаў— як і мы. Акрамя славян былі перуанцы, чылійцы.

**— Які рэпертуар немцы ўхваляюць!**

— Фальклор, класіка (на "ура" ідуць "Калінка-малінка", Бах). Кідаюць, у асноўным, манеты ў 1 марку. Чатырохгадовая дзяўчынка з бацькамі слухала поўнасцю наша выступленне. Падышла, спыталася адкуль мы. Паклала мне на далонь 5 марак.

**— Колькі наогул можна зарабіць!**

— Калі карыстацца таннымі магазінамі "NORMA", "ALDI", "Penni Market", спаць утрох у аднамесным нумары, ёсць шанц прыехаць праз месяц дамоў на добрай машыне. А калі грошы не збіраць, праз тры месяцы на "Аўдзі" 87 года выпуску заробіце абавязкова.

**— Ёсць свае сакрэты ў вандроўных музыкантаў!**

— Не ва ўсіх месцах можна выступаць. На некаторыя "пляцоўкі" неабходны дазвол улад. Іх даюць раз на тыдзень, і трэба ведаць дзень і час. Неабходнае і веданне горада. Звычайна першыя гастролі не прыбытковыя.

**— Як немцы да вас, музыкантаў, ставяцца!**

— Мы знаёміліся з рознымі людзьмі. Пажылы навуковец запрасіў у госці, пазнаёміў са сваёй сяброўкай— паўгода таму мінскай студэнткай. Ветэран II Сусветнай, дазнаўшыся, што мы з Мінска (Маладзечна пакуль не ведаюць), пацiснуў нам рукі. На прыпынку спыталі мужчыну, як даехаць да патрэбнай вуліцы. Аказалася, што ў таго сваякі з Львова. Усё нам паказваў, тлумачыў— ледзь адчапіліся.

**— Музыканты на вуліцах чымсьці нагадваюць адначасова і жабракоў, і прастытутак.**

— Сапраўды, мы жабракі. Музыканты-прафесіяналы на радзіме не запатрабаваныя (немцы халтуршчыку грошы кідаць не будуць). А прастытуткі жывуць, быццам тыя каралеўны. На выездзе з горада іх дзесяткі. У асабістых шыкоўных аўто. За гадзіну бяруць 100 марак. Да іх нам далёка.

*Размаўляў Віталь ЗОЛАТЦА.*

# Дзеці Бурацiны

***ВАЛОЖЫН.** Пазычанае любяць вяртаць не ўсе. Сёлета трое падманутых крэдытораў-прыватнікаў вымушаны былі звярнуцца ў суд. Сумы, якія даверлівыя ракаўчане і валожынцы пазычылі прайдзісветам, вагаюцца ад 80 да 1,5 тысячы долараў ЗША.*

У адным выпадку гаспадару грошай удалося вярнуць іх даволі хутка— адразу пасля судовага рашэння. У двух іншых справа дайшла да продажу маёмасці даўжнікоў.

А вось адзін з леташніх іскаў па спагнанні 1200 долараў пасля некалькіх судовых разглядаў быў адхілены, бо даўжніком аказалася маладая непрацуючая, якая да таго ж і не мае ўласнай маёмасці. Тыя, хто пакуль беззваротна пазычылі гэтай асобе "кругленькую" суму, могуць суцешыцца адным— у адносінах да падобных іскаў тэрміну даўнасці не існуе.

У ролі даверлівага Бурацiны ў апошні час выступае і Валожынскае аддзяленне "Белаграпрамбанка". Але і яго цярпенню прыйшоў канец: сёлета сваім валожынскім кліентам ён прад'явіў 12 іскаў на агульную суму больш за 5 мільярдаў рублёў.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

# 24 дні па 5 разоў

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н.** Чарнобыльская бяда не абмінула вёску Хоўхлава і наваколле. Церпяць і маладыя, і старыя.*

Фонд "Здароўе" дапамагае ў аздараўленні школьнікаў. Не першы год вучні хоўхлаўскай СШ атрымліваюць пуцёўкі ў рэспубліканскія здраўніцы. Вось і ў красавіку 60 вучняў— з пятага па адзінаццаты клас— прыехалі на 24 дні ў санаторый "Сасновы Бор", што паблізу Радашковічаў (чацвертакласнікі знаходзяцца ў санаторыі "Будаўнік" ля Ратамкі). Школьнікі і настаўнікі атрымліваюць прызначаныя ўрачамі працэдуры, наладжана харчаванне пяць разоў у суткі.

На адным з вечароў запомнілася выступленне пісьменніка, пляменніка Я. Коласа Сымона Белага. Ён расказаў пра гісторыю Радашковічаў (сёлета спаўняецца 550-год з дня першага ўпамінання ў гістарычных крыніцах гэтага мястэчка), прачытаў баладу пра Радашковічы, адказаў на пытанні, звязаныя з жыццём Якуба Коласа.

Сустракаліся вучні і з краязнаўцам з Мядзельшчыны, былым супрацоўнікам раённай газеты "Нарачанская зара" Міхаілам Чарняўскім. Тэма гутаркі: "Возера Нарач— прыгажосць Беларусі".

*Міхась КУПСКІ.*

# Засвяціла "Сонейка"

***ВІЛЕЙКА.** У садку №10 прайшло свята сям'і. Дарослыя і дзеці склалі дзве каманды "Светлячок" і "Сонейка". Перамагло, як заўсёды бывае ў такіх выпадках, сяброўства.*

На "біс" прайшоў конкурс "у свеце цудоўнага"— дарослыя праз міміку, пантаміму агучвалі дзіцячыя вершы, пераўтвараліся ў вобразы з карцін вядомых мастакоў. Адначасова праходзіла выстава самаробных рэчаў, якія ствараюць бацькі ў вольны ад работы і выхавання дзяцей час.

*Аддзел інфармацыі.*

# Беларуская энцыклапедыя ў 18 тамах

***У краіне ажыццяўляецца падрыхтоўка і выпуск унікальнага шматтомнага выдання Беларускай Энцыклапедыі.***

Стваральнікі новай Энцыклапедыі паставілі намэту ў 80 тысячах артыкулаў даць самыя разнастайныя звесткі пра найважнейшыя падзеі гісторыі і сучаснага грамадска-палітычнага жыцця, пра выдатных дзеячаў усіх часоў і народаў. У той жа час пэўная перавага аддаецца асвятленню падзей, з'яў, фактаў, звязаных з Беларуссю, з яе выдатнымі дзеячамі.

Беларуская энцыклапедыя— гэта ўсё пра Беларусь і ўвесь свет пабеларуску, гэта першая нацыянальная энцыклапедыя нашай дзяржавы. У стварэнні яе тамоў бяруць удзел вядомыя вучоныя, пісьменнікі Беларусі, краін блізкага і далёкага замежжа. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, картамі, схемамі.

Сёлета выйдуць 4 і 5 тамы. Поўнасцю выданне будзе завершана да 2003 года.

Набыць тамы энцыклапедыі можна ў маладзечанскай кнігарні "Спадчына" (Прытыцкага, 7, тэл. 70098, 70271).

*Аддзел інфармацыі.*

# А Маладзечна ўсё будуе...






*- А што ў нас у гарадскім парку будуюць?*

*- Царкву.*

*- Ды кінься, на туалеце грамадскім?*

*- Так, (далей ішла назва канфесіі - рэд.).*

*(З размовы).*

Як кажуць, з двух спрачальнікаў - адзін падманшчык, а другі дурань. Хаця многія гараджане сапраўды не ведаюць, што на месцы былога грамадскага туалета ў гарадскім парку прадпрымальныя людзі плануюць з цягам часу адкрыць піўны (ад слова "піва") рэстаран. Знакаміты туалет, да слова, застаецца - толькі рэканструяваны, з асобным уваходам і, натуральна, у нармальным выглядзе. Карыстацца ж ім немагчыма было даўно - хіба толькі бамжы ды наркоты рэгулярна туды наведваліся. Падгнілі 60-сантыметровыя сцены - да дзірак, была раскрадзеная сістэма цеплаводазабеспячэння, павыдзіраныя дзверы.

Сам жа рэстаран будзе падобны на даўнейшую карчму з унутраным дваром. У майстэрні архітэктара Утулкіна знайшлі даволі цікавае праектнае рашэнне, у якім улічаны нацыянальныя традыцыі. Тэхнічную частку выконвае майстэрня Шабаліна. Насустрач пайшоў і гарвыканком.

І ўсё ж будаўніцтва ідзе цяжкавата, з пастаяннымі лакальнымі канфліктамі. Уражанне такое, што некаму не патрэбны нармальны пункт грамадскага харчавання. Але, да прыкладу, партыя аматараў піва будзе задаволеная новым рэстаранам; сюды можна будзе прыйсці нават з жанчынай.

*Язэп СЕМЯНОВІЧ.*
*Фота Рамана КРЫЛОВА.*



# Свежасць у хату!



Суботнікі-- суботнікамі, а чысты чацвер-- чацвяргом. У Вілейцы гарадскія ўлады нават зрабілі ў апошні чацвер падарунак гаспадыням-- гарачая вада ў кранах была ад самай раніцы. Ура!

*Фота з архіва "РГ".*

